# РУХ за свабоду

Бюлетэнь ПАГА «Рух «За Свабоду» Выпуск №2 чэрвень 2014 году




## Адзіны і праеўрапейскі

**На травеньскім пасяджэнні Рады Руху «За Свабоду» сярод іншага абмяркоўваўся фармат удзелу арганізацыі ў кампаніі прэзідэнцкіх выбараў 2015 году. Паводле абмеркавання была прынятая рэзалюцыя па пытаннях падрыхтоўкі да яе.**



Рух «За Свабоду» заявіў, што выступае за выпрацоўку адзінай стратэгіі дзеянняў дэмакратычных сілаў на прэзідэнцкую выбарчую кампанію 2015 году і абранне адзінага альтэрнатыўнага кандыдата ў прэзідэнты: «Зыходзячы з гэтага, мы бярэм удзел у адпаведным перамоўным працэсе паміж палітычнымі партыямі і грамадскімі арганізацыямі, што ставяць на мэце перамены ў Беларусі».

Рух «За Свабоду» вітаў прагрэс у згаданых кансультацыях датычна выпрацоўкі працэдуры і крытэраў абрання адзінага кандыдата: «Разам з тым мы перасцерагаем ад фармалістычнага падыходу ў гэтым працэсе. Адзіны кандыдат – не самамэта, а інструмент пераменаў. Мы лічым, што важнай ёсць не толькі слушная працэдура абрання адзінага альтэрнатыўнага кандыдата ў прэзідэнты, але і стратэгія дзеянняў дзеля атрымання падтрымкі большасці беларускага народу».

**працяг на стар. 2**

## Колеры незалежнасці

**Бліжэйшым часам мінскім гарадскім уладам будзе пададзена паўторная заяўка на правядзенне ў цэнтры Мінска Маршу Незалежнасці. На першую з меркаванай датай акцыі 14 траўня быў дадзены адмоўны адказ: намеснік старшыні Мінгарвыканкаму Ігар Карпенка ў сваім лісце да заяўнікаў спаслаўся на артыкул 8 Закона «Аб масавых мерапрыемствах».**

Змест гэтага артыкулу: да атрымання дазволу на правядзенне масавага мерапрыемства яго арганізатары не маюць права паведамляць у сродках масавай інфармацыі і інтэрнеце аб даце, месцы і часе яго правядзення... Адмова рэдкая.

Незадаволеная заяўка на правядзенне Маршу Незалежнасці 14 траўня была пададзена 25 красавіка. Згодна з планам арганізатараў, ад 17.00 і да 17.30 меркаваўся збор удзельнікаў на пляцоўцы каля Нацыянальнай бібліятэкі, потым - шэсце па праезнай частцы праспекта Незалежнасці да плошчы Незалежнасці і правядзенне там ад 19.30 мітынгу. Сярод заяўнікаў акцыі фігуравалі першы намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Юрась Губарэвіч, намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Алесь Лагвінец, намеснік старшыні Партыі БНФ Ігар Лялькоў, сябра грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду» Сяргей Вазняк і адказны сакратар аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Дзяніс Садоўскі.

Чаму датай Маршу было абрана 14 траўня? Таму што 14 траўня 1995 году пачаўся раскол беларускай нацыі. Калі Ціцянкоў рваў зняты з Дому ўраду бел-чырвона-белы сцяг, ён рваў і беларускае грамадства. Сімвалічна, калі б у гэты дзень мы паказалі, што мы разам, калі гаворка вядзецца пра незалежнасць Беларусі, пакажам, што мы беларускага роду.

**працяг на стар. 6**

# Адзіны і праеўрапейскі (працяг)

пачатак на 1 стар.

Зважаючы на нацыянальныя інтарэсы Беларусі Рух «За Свабоду» настойвае, каб «палітык ці грамадскі дзеяч у статусе адзінага кандыдата дэмакратычных сілаў быў правадніком ідэі незалежнасці Беларусі і яе еўрапейскага выбару».

Адзначана, што ў Руху «За Свабоду» ёсць асобы, якія валодаюць якасцямі годнага і пераможнага кандыдата ў прэзідэнты ад праеўрапейскіх і прабеларускіх прыхільнікаў пераменаў. Аднак «мы гатовы падтрымаць іншага прэтэндэнта на адзінага кандыдата, з якім будзем мець супольныя каштоўнасныя пазіцыі».

Праграмай-мінімум у кааліцыйным будаўніцтве арганізацыя бачыць якраз кансалідацыю тых грамадска-палітычных сілаў, якія вызнаюць за прыярытэты незалежнасць і перспектыву еўрапейскага выбару Беларусі.

Па словах першага намесніка старшыні Руху «За Свабоду» Юрася Губарэвіча, пазіцыя арганізацыі – нязменная: «Мы лічым, што для Беларусі адзіны кандыдат - гэта магчымасць дайсці да большай колькасці выбаршчыкаў і як мінімум скансалідаваць апазіцыйны электарат». Перадусім – з праеўрапейскімі настроямі. А гэта - мінімум траціна насельніцтва.

Разам з тым, на думку Губарэвіча, абранне адзінага рэальна немагчыма раней за пачатак 2015 году з-за таго, што застаецца яшчэ шмат нявырашаных працэдурных пытанняў: «Нездарма кажуць, што д'ябал хаваецца ў дэталях. І тут самае галоўнае, каб адзіны кандыдат (калі ён будзе абраны) карыстаўся падтрымкай усіх суб'ектаў, што будуць удзельнічаць у Кангрэсе дэмакратычных сілаў, на якім ён можа быць вызначаны. Спешка з прызначэннем працэдуры, калі ў выніку некаторыя суб'екты ёю незадаволеныя і змогуць паставіць пад сумнеў вынікі кангрэсу, ні да чаго добрага не прывядзе».

Прычым важна не столькі вызначыцца з самой працэдурай вылучэння кандыдата, бо гэта хутчэй тэхнічны момант, колькі зрабіць гэта ў спалучэнні з выпрацоўкай стратэгіі, скіраванай на здабыццё падтрымкі грамадства.

«Без падтрымкі большасці казаць пра справядлівы падлік галасоў і верагоднасць пратэстаў на Плошчы не выпадае», - прагназуе адзін з кіраўнікоў Руху.

# «Каларады» не прайшлі

**Вельмі рэзанснай атрымалася заява Руху «За Свабоду» ў сувязі з раздачай у адным з мінскіх гіпермаркетаў чорна-аранжавых, так званых «георгіеўскіх», стужак напярэдадні Дня Перамогі 9 траўня. Зрэшты, тэма актуальная і перад 3ліпеня, Днём вызвалення Мінска ад фашыстаў.**



«Георгіеўская стужка» на кулямёце

Рух заявіў, што чорна-аранжавая сімволіка ўсё менш і менш асацыюецца з Днём Перамогі над нацызмам і фашызмам: «Яна ўсё больш становіцца сімвалам расійскага імперыялізму. Пасля апошніх падзеяў ва Украіне яна адназначна мае новы адмоўны сэнс як услаўленне сепаратызму і вайсковай агрэсіі».

У сувязі з гэтым Рух «За Свабоду» заклікаў Мінскі гарвыканкам, іншыя органы мясцовых уладаў, а таксама Савет міністраў да забароны раздачы і выкарыстання «георгіеўскіх стужак» у грамадскіх месцах.

Заклікалі мы і беларусаў адмаўляцца ад выкарыстання гэтых стужак «у знак салідарнасці з Украінай і пратэсту супраць вайсковай агрэсіі, прапануем святкаваць гадавіну перамогі ў Другой сусветнай вайне з іншымі, у тым ліку нацыянальнымі, сімваламі».

Як выявілася, з пазіцыяй Руху «За Свабоду» аказаліся салідарнымі многія. Так, улады рэкамендавалі не выкарыстоўваць чорна-аранжавыя стужкі падчас святкавання Дня Перамогі. А аўтамабілі з імі, павязанымі на антэнах, можна было сустрэць зрэдзьчасу ў параўнанні з мінулымі гадамі.

# Візавая палёгка




**Рада Руху «За Свабоду» прапанавала ўраду адмяніць візы для грамадзян дзяржаваў-чальцоў і дзяржаваў-кандытатаў на ўступленне ў Еўрапейскі саюз, а таксама Швейцарыі, Нарвегіі, Ісландыі, Ліхтэнштэйну, Японіі, Канады і ЗША.**

Адзначаецца, што «у нацыянальным інтарэсе Беларусі развіваць больш цесныя міжлюдскія кантакты з развітымі краінамі свету.

Пазітыўны досвед увядзення бязвізавага рэжыму падчас чэмпіянату свету па хакеі паказвае, што Беларусь тэхнічна цалкам гатовая на такі крок. Наша краіна мае што паказаць і чым прывабіць добрасумленных наведвальнікаў.

Турызм у Беларусь можа стаць адной з ключавых галінаў дзеля стварэння новых працоўных месцаў, эканамічнага росту і прыцягнення інвестыцыяў».

Увядзенне бязвізавага рэжыму за краінамі ЕС, а таксама неадкладнае ўвядзенне ў дзеянне Дамоваў аб малым памежным руху з Польшчай і Літвой стануць дадатковым аргументам на карысць Беларусі падчас правядзення перамоваў аб спрошчаным візавым, а ў далейшым і бязвізавым рэжыме з краінамі ЕС.

Дарэчы, з 12 чэрвеня Казахстан увёў аднабаковы бязвізавы рэжым для грамадзянаў дзесяці краінаў, якія актыўна інвестуюць у эканоміку страны.

У гэтым спісе - ЗША, пяць краінаў Еўрасаюзу (Нідэрланды, Вялікабрытанія, Францыя, Германія, Італія), а таксама ААЭ, Малайзія, Паўднёвая Карэя і Японія.

«Казахстан паказаў, што аднабаковая адмена візаў – гэта магчыма і што так трэба рабіць», - кажа намеснік старшыні Руху Алесь Лагвінец.




«Мы звярнуліся да ўраду наконт скасавання візаў, бо гэта выгодна Беларусі, геапалітычна, эканамічна і прыўвядзе спачатку да змякчэння для беларусаў візавага рэжыму з краінамі Еўразвязу, а потым і адмены візаў», - кажа Алесь Лагвінец.

Па ягоных словах, Рух пакуль не дачакаўся адказу ад беларускіх уладаў, але ўжо заўважна, што ёсць адпаведныя грамадскія настроі і іншыя падобныя ініцыятывы.

Намеснік старшыні Руху «За Свабоду» адзначыў, што ўвядзенне безвізавага рэжыму цікавае перад усім з эканамічнага пункту гледжання, бо ў краіну паедуць турысты, якія прывязуць з сабой грошы. Але ўвядзенню такога рэжыму перашкаджаюць палітычныя прычыны.



«Улады баяцца адкрыць шырэй краіну, баяцца, што ўсе заўважаць, што ў краіне – нешта не так, а самі беларусы стануць больш мабільнымі», - лічыць ён.

Канечне, дадаў Лагвінец, уладам Казахстану было прасцей пайсці на адмену візавага рэжыму, бо краіна не мяжуе з ЕС, няма праеўрапейскіх настрояў, жадання жыхароў бачыць сабе часткай аб'яднанай Еўропы.

«Мы як краіна, якая знаходзіцца ў цэнтры Еўропы, павінны быць адкрытай і на захад, і на ўсход», - падсумаваў намеснік старшыні Руху «За Свабоду».



# Прэмія «За свабоду думкі» – у Шалкевіча



**Цырымонія ўручэння прэміі «За свабоду думкі-2914» імя Васіля Быкава адбылася 21 чэрвеня традыцыйна на радзіме пісьменніка – у вёсцы Бычкі на Віцебшчыне. Яе ўладальнікам стаў вядомы гродзенскі бард, акцёр і шоўмен Віктар Шалкевіч.**

«Выдатна, што я атрымаў прэмію «За свабоду думкі». У мае 55 год час нешта атрымліваць. І ўвогуле, прэмія імя Быкава - гэта не абы што і да мяне яе атрымлівалі не абы якія людзі», - напаўжартоўна-напаўсур'ёзна пракаментаваў уганараванне лаўрэат для Рух.by.

Прэмія «За свабоду думкі» імя Васіля Быкава заснаваная лідарам Руху «За Свабоду» ў 2008 годзе. Ідэя ўзнікла пасля атрымання Аляксандрам Мілінкевічам прэміі «За свабоду думкі» імя Андрэя Сахарава, якую ўручае Еўрапарламент.




Прэміяй «За свабоду думкі» ўзнагароджваюцца асобы, якія праявілі сябе грамадскай і творчай дзейнасцю на карысць Беларусі і Свабоды.

Уладальнікамі прэміі мінулымі гадамі станавіліся літаратары Рыгор Барадулін, Уладзімір Арлоў, палітык-літаратар Павел Севярынец, затым мастак Алесь Пушкін, краязнаўца Ада Райчонак, палітык-паэт Уладзімір Някляеў, музыка Лявон Вольскі і краязнаўца Алесь Белакоз, летась - музыка Зміцер Вайцюшкевіч і мастак Алесь Марачкін.

«Лаўрэатаў прэміі «За свабоду думкі» вызначае не Рух «За Свабоду», а выбітныя людзі Беларусі. Спачатку, у 2008 годзе, быў складзены спіс з 50 найбольш вядомых лідараў думак, якія і вызначылі першых уладальнікаў прэміі. У наступныя гады імёны пераможцаў сталі называць лаўрэаты папярэдніх гадоў. Такім чынам, журы кожны год папаўняецца аўтарытэтнымі асобамі. Лічу такі прынцып вельмі справядлівым і аб'ектыўным», - кажа старшыня Руху «За Свабоду» Аляксандр Мілінкевіч.





# Прыклад Астрожскага

## Рух «За Свабоду» звярнуўся да беларускай арміі




**«Крывавыя падзеі ва Украіне выклікаюць ў беларусаў непакой і трывогу. Ніхто не хацеў бы, каб на нашай беларускай зямлі ішла братазабойчая вайна або нехта імкнуўся праз сваіх дыверсантаў падзяліць і акупаваць нашу Беларусь.**

Беларусы - мірныя людзі, але ў крытычныя моманты трэба быць гатовым выйсці шчыльнымі радамі супраць агрэсара, каб бараніць мір, тэрытарыяльную цэласнасць і незалежнасць нашай краіны.

Агульны і маральна-палітычны стан беларускай арміі выклікае справядлівую занепакоенасць. Сёння ўсім відавочна, што тут недастаткова развіты ўласна беларускі патрыятызм, што мала чаго робіцца, каб пашыраць каштоўнасці незалежнасці і нейтральнасці Беларусі.

Мы лічым патрэбным неадкладна прыняць новую канцэпцыю нацыянальнай бяспекі, скіраваную на ўлічванне новых пагрозаў і рызыкаў для Беларусі і яе дзяржаўнасці. Павінна быць прынятая новая праграма дзеянняў з прыярытэтам у разуменні абароны Айчыны як абароны менавіта незалежнай Беларусі. Належыць прыняць праграму сапраўднай беларусізацыі нашай арміі.

Варта пашыраць выкладанне сапраўднай беларускай гісторыі ў вайсковых вучэльнях і частках, трэба выхоўваць беларускіх вайскоўцаў на ўчынках не толькі герояў Вялікай Айчыннай вайны, але і іншых гістарычных постацях кшталту Усяслава Полацкага, вялікіх князёў Альгерда і Вітаўта, Канстанціна Астрожскага, Тадэвуша Касцюшкі, Кастуся Каліноўскага. Дзяржаўная беларуская мова павінна шырэй і рэгулярна выкарыстоўвацца камандным і афіцэрскім складам падчас урачыстых мерапрыемстваў, вучэнняў, штодзённай дзейнасці. Сапраўднае беларускае войска павінна спяваць і маршыраваць пад беларускія песні.




Мы заклікаем армейскае кіраўніцтва скіраваць выхаванне военнаслужачых у бок беларускага патрыятызму і гатовыя прапанаваць сваю дапамогу, напрыклад, у выглядзе адпаведных інфармацыйных матэрыялаў і адукацыйных сустрэчаў.

Мы заклікаем моладзь прызыўнога ўзросту і дзейных вайскоўцаў браць прыклад з лепшых сыноў-абаронцаў Бацькаўшчыны, каб вокліч «Служу Рэспубліцы Беларусь!» быў напоўнены глыбокім патрыятычным сэнсам», - гаворыцца ў звароце.

Цяперашняя канцэпцыя нацыянальнай бяспекі дасталася ў спадчыну ад Савецкага Саюза. Небяспека ў ёй бачыцца толькі з Захаду, але так быць не павінна, заявіў у каментары Еўрарадыё старшыня Руху «За Свабоду» Аляксандр Мілінкевіч.

«Безумоўна, гэта цяжка ва ўмовах эканамічнай залежнасці Беларусі ад Расіі. Але канцэпцыя нацыянальнай абароны павінна быць па-над настроямі грамадства, таму што грамадства можа не адразу гэта разумець, а эліта — павінна. І па-над эканамічнай залежнасцю. Таму мы лічым, што ў гэтай канцэпцыі павінна быць прадугледжана небяспека таксама з Усходу», - зазначыў Мілінкевіч.

Па ягоных словах, беларусізацыя войска не запатрабуе вялікіх дадатковых намаганняў, бо ёсць нават беларускія вайсковыя слоўнікі, выдадзеныя ў 90-х гадах. На яго думку, вайскоўцаў трэба выхоўваць на імёнах беларускіх палкаводцаў і герояў.

**(На фота плакаты, якія Рух «За Свабоду» даслаў у вайсковыя часткі)**

# Колеры незалежнасці (працяг)

пачатак на стар. 1



Новая заяўка будзе на дату, якая у свой час была галоўным дзяржаўным святам у Беларусі. Вось так, спадары мінгарвыканкамаўскія чыноўнікі, канкрэтная дата, а таксама месца і час не называюцца

Ініцыятарам Маршу Незалежнасці выступіў Руху «За Свабоду». Наша арганізацыя звярнула ўвагу, што ў сёлетнім пасланні кіраўніка Беларусі парламенту і беларускаму народу шмат было сказана пра незалежнасць і пагрозы для яе. Аднак адна з пагрозаў палягае ў расколатасці беларускага грамадства. Супрацьстаяць знешнім рызыкам без шырокай падтрымкі народу немагчыма. Падзеі ва Украіне - яскравы сумны прыклад, калі крамлёўскі агрэсар выкарыстоўвае падзеленасць грамадства. Гарантам абароны і ўмацавання незалежнасці ёсць не адна кіруючая асоба, а ўсе беларусы!

Мы гатовы падтрымліваць дзеянні ў абарону незалежнасці, а не словы! Адзінства народу немагчыма дасягнуць праз рэпрэсіі і забароны, слушны спосаб - мірныя перамены і дыялог. Мы гатовыя да іх!

Мэта правядзення Маршу Незалежнасці - публічнае выказванне падтрымкі ідэі мацавання незалежнасці Беларусі і канстытуцыйнага палажэння пра нейтралітэт. Кансалідацыйны Марш Незалежнасці мяркуецца правесці пад нацыянальнымі і дзяржаўнымі сцягамі - бел-чырвона-белымі і чырвона-зялёнымі. Будуць запрошаныя ўзяць у ім удзел і ўлады.



Падкрэслім: Марш Незалежнасці, ініцыяваны Рухам «За Свабоду», не мае стаць апазіцыйнай акцыяй. Гэта павінен быць Марш ў падтрымку незалежнасці, якая ёсць агульнай найгалоўнейшай каштоўнасцю для мільёнаў беларусаў. Гэта сімвалічная акцыя дэманстрацыі патрыятызму і еднасці. Таму яна мусіць быць дазволенай, мірнай і мець маршрут па цэнтральным праспекце сталіцы.

На Маршы Незалежнасці абсалютна спакойна могуць шпацыраваць патрыёты пад рознымі сцягамі. І тыя, хто таньчыць пад «Ляпісаў» бел-чырвона-белым сцягам, і тыя, хто заўзее на трыбунах пад чырвона-зялёным.

Калі вы, бел-чырвона-белыя, разам з чырвона-зялёнымі перажываеце за Домрачаву нягледзячы на тое, што яна суботнічае з Лукашэнкам, то незалежнасць тым болей не павінна манапалізавацца. Яна павінна аб'ядноўваць. Ёсць розныя палітыкі, якія прыходзяць і сыходзяць, ёсць розныя сацыяльна-эканамічныя фармацыі, наконт якіх можна дыскутаваць, але Беларусь у нас адна. І ад нас залежыць, ці будзе яна жыць.

Рух «За Свабоду» ініцыюе правядзенне ў сталіцы Беларусі Маршу Незалежнасці.

У сёлетнім пасланні кіраўніка Беларусі парламенту і беларускаму народу шмат было сказана пра незалежнасць і пагрозы для яе. Мы лічым, што адна з пагрозаў палягае ў расколатасці беларускага грамадства. Супрацьстаяць знешнім рызыкам без шырокай падтрымкі народу немагчыма. Гарантам абароны і ўмацавання незалежнасці ёсць не адна кіруючая асоба, а ўсе беларусы!

> **“ Ёсць розныя палітыкі, якія прыходзяць і сыходзяць, ёсць розныя сацыяльна-эканамічныя фармацыі, наконт якіх можна дыскутаваць, але Беларусь у нас адна. І ад нас залежыць, ці будзе яна жыць.**

# Кошт гарэлкі - дзённы заробак!



**Адна з самых нашумелых тэмаў апошняга часу - лідарства Беларусі паводле дадзеных Сусветнай арганізацыі аховы здароўя па спажыванні алкаголю - 17,5 літра на душу насельніцтва ў пераліку на чысты спірт.**

Зрэшты, Міністэрства аховы здароўя Беларусі запярэчыла, што лічба завышаная, назваўшы іншы паказчык - 11,14 літра. Нават калі так, то і гэта прыкрае месца ў першай дваццатцы! Аднак афіцыйная статыстыка ў нашай краіне не ўлічвае самаробныя алкагольныя напоі і нелегальна ўвезеныя ў Беларусь.

Дый рэкі алкаголю ў вулічным продажу падчас чэмпіянату свету па хакеі ў Мінску змушаюць давяраць статыстыцы СААЗ.

Рух «За Свабоду» прапануе шэраг захадаў па дэалкагалізацыі насельніцтва і антытытунёвыя меры - гэта адзін з пунктаў «Народнай праграмы», якія тычыцца рэформаў у сферы аховы здароўя. Нагадаем, «Народная праграма»- гэта ініцыятыва Руху «За Свабоду» па выпрацоўцы канцэпцыі пераўтварэнняў у Беларусі з дапамогай экспертнага і шырокага грамадскага абмеркавання надзённых пытанняў развіцця краіны.

Сярод захадаў па зніжэнні спажывання алкаголю і тытуню прапануюцца:

- Значнае павелічэнне акцызаў на алкаголь і цыгарэты (напрыклад, кошт бутэлькі гарэлкі мусіць быць роўны не меней за мінімальны дзённы заробак);
- Забарона продажу піва і моцнага алкаголю ад 22:00 вечара да 10:00 раніцы;
- Вынас продажу цыгарэт і алкаголю ў спецыялізаваныя крамы і шапікі;
- Поўная забарона рэкламы цыгарэт, піва і моцнага алкаголю ў СМІ і на білбордах, а таксама гандлёвых марак вытворцаў цыгарэт і алкаголю;
- Павелічэнне ўзроставага цэнзу на забарону продажу цыгарэт, піва і моцнага алкаголю асобам да 21 года;
- Забарона вырабніцтва і продажу пладова-ягадных він («чарніла») на ўсёй тэрыторыі Беларусі.

# Мінчукі абаранілі рухаўца



**Гэты выпадак адбыўся падчас травеньскага чэмпіянату свету па хакеі: мінчукі заўзятары не далі міліцыі затрымаць актывіста Руху «За Свабоду» Мікіту Семяненку.**

«Ноччу на фан-зоне на Нямізе, лічы, у самым цэнтры Мінска, адбылося некалькі боек паміж расійскімі заўзятарамі і беларусамі. Пасля гэтага туды прыбылі прыкладна 15 АМАПаўцаў. Удзельнікі бойкі да гэтага часу паспелі разбегчыся хто куды. І міліцыянты пачалі глядзець на людзей, якія стаялі побач», - распавёў Мікіта Семяненка.

Па ягоных словах, ён і яшчэ некалькі чалавек увесь гэты час стаялі і размаўлялі пра беларускую мову. «Міліцыянты правялі праверку дакументаў ва ўсіх нас. Потым узялі мае, перапісалі ўсе дадзеныя. Затым кажуць: хадзем з намі», - дадаў актывіст.

Але людзі, па ягоных словах, сказалі: «Не таго затрымліваеце». І хаця ім прыгразілі, што, калі яны не супакояцца, то таксама паедуць з міліцыяй, падышло яшчэ больш народу. «Яшчэ адзін хлопец патлумачыў, дзе хто знаходзіўся, што я не меў дачынення да бойкі», - згадвае рухавец.

Па ягоных падліках, яго падышлі абараняць больш за дзесяць чалавек, абсалютна да гэтага часу яму незнаёмыя. А самі «разборкі» цягнуліся бліzу гадзіны, за якія міліцыянеры правяралі дакументы і лаяліся...

Урэшце супрацоўнікі міліцыі вярнулі яму дакуманты і сказалі, каб на гэтай фан-зоне яго больш не бачылі.

«Дзякую, што шляхам ціску беларускіх грамадзянаў, што часам любяць пабалбатаць па-беларуску, атрымалася вярнуць мае дакументы і вызваліць з-пад варты», - заключыў актывіст.

Нагадаем, што сябра Руху «За Свабоду» Мікіта Семяненка браў удзел у кампаніі выбараў дэпутатаў мясцовых Саветаў. Пасля гэтага ён быў адлічаны з факультэту журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэту.

# «Фінляндызацыя» Беларусі: ці рэальна?



**Украінскі крызіс абвастрыў праблему выбару бяспечнай знешнепалітычнай лініі для постсавецкіх краін. Некаторыя эксперты лічаць, што Беларусі, калі яна не хоча стаць расійскай правінцыяй, варта запазычыць вопыт узаемаадносін паміж Фінляндыяй і Савецкім Саюзам.**

Палітолагі называюць гэты шлях «фінляндызацыяй». Адзін з прыхільнікаў такога сцэнару развіцця стасункаў Беларусі са сваімі суседзямі - намеснік старшыні Руху «За Свабоду», палітолаг Алесь Лагвінец.

Вось як ён тлумачыць сваю ідэю: «Фінляндыя захавала сваю незалежнасць, свой унутраны палітычны лад, капіталістычную эканоміку, магла развіваць сваю ўласную ідэнтычнасць. Але ў той жа час яна заставалася нейтральнай краінай доўгі час і мела досыць прывілеяваныя адносіны з савецкім блокам».

Старэйшы аналітык Беларускага інстытута стратэгічных даследаванняў (BISS) Дзяніс Мельянцоў расстаўляе акцэнты амаль гэтак жа: «Асноўны сэнс у тым, што больш слабая дзяржава, у суседстве з якой ёсць больш моцная дзяржава ідзе на саступкі гэтаму суседу дзеля захавання сваёй нацыянальнай ідэнтычнасці, суверэнітэту. Пры гэтым, дзякуючы саступкам у знешняй палітыцы, у ваеннай сферы, яму дазволена ва ўнутраных справах паводзіць сябе вольна».

На думку Лагвінца, для Беларусі «фінляндызацыя» павінна азначаць «нейтралітэт, памяншэнне ваеннай залежнасці ад Расеі, але пры гэтым - пабудову прагматычных блізкіх эканамічных адносінаў з Расіяй, якая па-ранейшаму застаецца галоўным рынкам для Беларусі».

Палітолаг і намеснік старшыні Руху лічыць, што расійскую пагрозу не варта перабольшваць: «Расія - значна слабейшая за Савецкі Саюз, мае меншы ўплыў у свеце, у яе няма глабальнай ідэі, якая магла б быць канкурэнтаздольнай у адносінах з іншымі звышдзяржавамі, акрамя ідэі «рускага свету».

Пры гэтым, Лагвінец прызнае, што далёка не ўсе перадумовы для такога шляху ў Беларусі ўжо склаліся: «Не хапае другога вельмі важнага аспекту, які быў актуальны ў Фінляндыі, - цесных адносін з Захадам, у нашым выпадку - з ЕС».

«Неабходна будаўніцтва зоны свабоднага гандлю з Еўрасаюзам і прыцягненне заходняга капіталу, заходніх тэхналогій для мадэрнізацыі беларускай эканомікі. Гэта тое, што Расія не здольная даць», - лічыць ён.

Дзяніс Мельянцоў скептычна ацэньвае перспектывы беларускай «фінляндызацыі»: «Фінляндыі дазволілі быць незалежнай краінай, яна павінна была захоўваць статус недалучанай краіны, Беларусь жа - блізкі саюзнік Расіі па ўсіх напрамках».

«Расія ніколі не дазволіць Беларусі быць нейтральнай краінай, таму што Беларусь у ваенна-палітычных адносінах вельмі важная для Расіі. Уявіце сабе варыянт, калі Беларусь адмаўляецца ад сяброўства ў АДКБ. Што за гэтым можа рушыць услед?» - задаецца рытарычным пытаннем аналітык.

«Акрамя таго, - дадае Мельянцоў у інтэрв'ю інтэрнет-газеце Naviny.by, - Фінляндыя заўсёды была краінай заходняга свету, Беларусь - не. Захад успрымае Беларусь хутчэй як частку Расіі».

Паміж здольнасцю Беларусі і Фінляндыі да паспяховага геапалітычнага роўнааддаленага балансавання ёсць яшчэ адна істотная розніца. Для выбару такой знешнепалітычнай стратэгіі грамадзяне краіны павінны выразна ўсведамляць сябе асобным народам, са сваімі нацыянальнымі, адрознымі ад суседскіх, інтарэсамі.

«Першае, што трэба - гэта беларусізацыя Беларусі», - перакананы Лагвінец.

Газета выдаецца Рухам «За Свабоду». Наклад 299 ас. Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі бясплатна.
Падпісана ў друк 24.06.2014 г. Кантакты рэдакцыі: тэлефон +375 17 2808863, е-пошта info@pyx.by